# Голас Радзімы

№ 25 (2063)
23 чэрвеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Падзея, якая яшчэ мае толькі адбыцца, ужо даўно стала галоўнай у нашым жыцці, хвалюе нашы сэрцы і будзіць розум. У гэтых словах няма і ценю перабольшання. Яны не проста звыклы прапагандысцкі пасаж, якіх не мала было ў мінулым. Такі стан савецкага грамадства напярэдадні XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, якая пачне сваю работу ў апошнія дні чэрвеня.

Вера **ФЯДУТА** — дэлегат канферэнцыі ад Слонімшчыны. Яе, настаўніцу Дзераўноўскай сярэдняй школы, камуністы пасылаюць у Маскву. Каб выказала іх думку аб перабудове, спадзяванні народа на рэвалюцыйныя змены ва ўсіх сферах жыцця. (З фотарэпартажа пра дэлегата XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі мы і пачынаем сёння нумар «Голасу Радзімы». Працяг — на 3-й старонцы).

НАРОДНАЯ ДЫПЛАМАТЫЯ

# НА ХВАЛЯХ МІРУ



Мінск — адзін з гарадоў нашай краіны, якія былі ўзнагароджаны Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый ганаровым дыпломам «Пасланец міру». Удзел шырокай грамадскасці ў розных акцыях, накіраваных на захаванне і ўмацаванне міру, — адна з адметных традыцый беларускай сталіцы. Мінск, які перанёс тры гады фашысцкай акупацыі і лёг руінамі ў імя вызвалення, горача падтрымаў заклік з Хірасімы: ратаваць зямлю ад атамнай бездані. Гэты заклік дакаціўся да Беларусі на «Хвалі міру», якая пачалася ў Японіі ў дні работы 3-й спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Як і ва ўсіх градах свету, у Мінску «Хваля міру» пачалася ў суботу, 11 чэрвеня, апоўдні. К гэтаму часу ў скверы імя Янкі Купалы ўжо сышліся сотні мінчан. За пяць хвілін да дванаццаці на хвалях эфіру па радыё разнесціся зварот да ўсіх жыхароў рэспублікі старшыні Беларускага камітэта абароны міру, вядомага пісьменніка Івана Шамякіна. А пунктуальна, а дванаццатай акадэмік Акадэміі навук БССР Ф. Фёдараў адкрывае антываенны мітынг. Ён заканчваецца абвяшчэннем Заклiку да абароны міру, звернутага да спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. У ім, у прыватнасці, выказваецца гарачая падтрымка Дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці.

Пад Заклікам паставілі свае подпісы дзесяткі тысяч мінчан у дзевяці пунктах горада, дзе праходзілі адначасова аналагічныя мітынгі і зборы подпісаў пад гэтым дакументам «народнай дыпламатыі».

А праз некалькі дзён услед за «Хваляй міру» —новая хваля добрай волі: у Злучаныя Штаты Амерыкі выехалі больш за 200 прыхільнікаў міру, якія прадстаўляюць усе рэспублікі Савецкага Саюза. Сярод іх і чацвёра пасланцоў ад Беларусі. Гэта — Пётр Бараноўскі, урач з Гродна, Людміла Баннікава, выкладчыца універсітэта з Гомеля, Жанна Гардзейка, настаўніца з Івацэвіч, і Віктар Чабатар, камсамольскі лідэр з Мядзеля. Яны прымуць удзел у савецка-амерыканскім маршы міру, які праходзіць па тэрыторыі многіх штатаў ЗША з 16 чэрвеня да 19 ліпеня.

Хвалі міру накатваюць адна за адной. Без перапынку і з большай сілай. Рашуча і паслядоўна. І нязменна яны праходзяць праз сэрца кожнага жыхара Беларусі.

**НА ЗДЫМКАХ:** турысты з Чэхаславакіі і замежныя студэнты, якія вучацца ў Мінску, прынялі ўдзел у «Хвалі міру».




З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ТАСС

## САВЕЦКА-БАЛГАРСКІ ЭКІПАЖ ВЯРНУЎСЯ НА ЗЯМЛЮ

17 чэрвеня 1988 года пасля завяршэння сумесных работ на борце навукова-даследчага комплексу «Мір» міжнародны экіпаж у саставе Анатоля Салаўёва, Віктара Савіных і грамадзяніна Народнай Рэспублікі Балгарыі Аляксандра Аляксандрава вярнуўся на Зямлю. Уладзімір Цітоў і Муса Манараў працягваюць свой працяглы арбітальны палёт.

У ходзе васьмісутачнага палёту на борце арбітальнага комплексу «Мір» міжнародны экіпаж поўнасцю выканаў запланаваныя даследаванні і эксперыменты, падрыхтаваныя сумесна вучонымі Савецкага Саюза і Балгарыі. Значная частка гэтых работ праводзілася з выкарыстаннем апаратуры, створанай балгарскімі спецыялістамі.

Выканана вялікая праграма геафізічных даследаванняў, якія ўключаюць у сябе фотаздымкі і спектраметрыраванне тэрыторыі Народнай Рэспублікі Балгарыі, акваторыі Чорнага мора і іншых раёнаў зямной паверхні. Атрыманая інфармацыя будзе выкарыстана для вырашэння многіх навуковых і народнагаспадарчых задач.

У ходзе палёту была праведзена адпрацоўка мнагамэтавага астрафізічнага комплексу і выканана некалькі серый эксперыментаў па вывучэнню галактычных і пазагалактычных крыніц выпраменьвання, міжпланетнага асяроддзя, фізічных працэсаў, якія адбываюцца ў іанасферы і атмасферы Зямлі.

Па праграме касмічнага матэрыялазнаўства атрыманы ўзоры монакрышталяў металічных сплаваў і кампазіцыйных матэрыялаў з палепшанымі характарыстыкамі.

Значнае месца ў рабоце міжнароднага экіпажа было адведзена медыцынскім эксперыментам, накіраваным на комплекснае даследаванне працэздольнасці чалавека ў перыяд адаптацыі да бязважкасці.

За паспяховае ажыццяўленне касмічнага палёту на арбітальным навукова-даследчым комплексе «Мір» і праяўленыя пры гэтым мужнасць і гераізм прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка» лётчыку-касманаўту Анатолю Салаўёву. Двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык-касманаўт СССР Віктар Савіных узнагароджаны ордэнам Леніна, а грамадзяніну Народнай Рэспублікі Балгарыі касманаўту-даследчыку Аляксандру Аляксандраву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка».

За актыўны ўдзел у рабоце па забеспячэнню касмічнага палёту савецка-балгарскага экіпажа на арбітальным навукова-даследчым комплексе «Мір» грамадзянін Народнай Рэспублікі Балгарыі касманаўт-даследчык Красімір Стаянаў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

## ЗАВЕРШАНЫ ЎРАЧЫСТАСЦІ

У нашай краіне прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя тысячагоддзю хрышчэння Русі.

На юбілей прыехалі шматлікія замежныя госці — прадстаўнікі розных цэркваў і рэлігійных арганізацый з амаль ста краін свету. Яны прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, якія прайшлі ў Загорску (пад Масквой), Кіеве, Ленінградзе, Уладзіміры.

З выпадку гістарычнай даты вялікую групу ўдзельнікаў юбілейных урачыстасцей, сярод іх Патрыярха Маскоўскага і ўсяя Русі Пімена, прадстаўнікоў духавенства нашай краіны і замежных гасцей, прыняў у Крамлі Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР А. Грамыка.

Ён падкрэсліў, што Руская праваслаўная царква прымала ўдзел у кансалідацыі сіл народа ў пераломны перыяд яго гісторыі, садзейнічала аб'яднанню разрозненых земляў у адзіную дзяржаву, якая стала буйнейшай у Еўропе, спрыяла развіццю культуры, аказвала вялікі ўплыў на палітычнае і эканамічнае жыццё Русі.

У сувязі з тысячагоддзем Рускай праваслаўнай царквы ў Маскве будзе закладзены новы храм. Сваё летазлічэнне ён пачне з 13 чэрвеня 1988 года, калі ля Царыцына, паблізу Кашырскай шашы, быў устаноўлены закладны камень. На чырвоным граніце надпіс: «Тут будзе ўзведзены храм у азнаменаванне тысячагоддзя хрышчэння Русі».

Тым самым выканком Массавета задаволіў просьбу Рускай праваслаўнай царквы, выказаную на сустрэчы М. С. Гарбачова з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяя Русі Піменам і членамі Свяшчэннага сінода.

ФОНД КУЛЬТУРЫ

## ПЕРШЫ ПЛЕНУМ

Больш за 70 тысяч рублёў паступіла на спецыяльны рахунак Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры для пабудовы мемарыяла «Буйніцкае поле» ў Магілёве. Грамадская арганізацыя, з моманту ўтварэння якой прайшло крыху больш за год, набывае ў рэспубліцы аўтарытэт. Аб гэтым сведчаць факты, названыя на першым пленуме праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, які адбыўся ў Мінску 15 чэрвеня.

З дакладам выступіў старшыня яго праўлення пісьменнік Іван Чыгрынаў.

Аналізуючы першы вопыт работы, удзельнікі пленума адзначалі, што добрыя перамены, якія адбываюцца сёння ў грамадстве, выклікалі ў людзей пільную ўвагу да гісторыі свайго народа, нацыянальнай культуры.

Вялікі пералік праблем, якія трэба будзе вырашыць фонду сумесна з усімі зацікаўленымі бакамі. Напрыклад, з 1212 помнікаў архітэктуры, пастаўленых на ўлік у рэспубліцы, больш тысячы знаходзяцца ў нездавальняючым стане і патрабуюць неадкладнай рэстаўрацыі. Сёння фонд рыхтуе прапановы па ўдасканальванню дзеючага заканадаўства аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры для вынясення іх на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Выступаўшыя на пленуме ўнеслі канкрэтныя прапановы па развіццю гістарычнага краязнаўства і рабоце з моладдзю, захаванню фальклорных традыцый і адраджэнню народных рамёстваў, па іншых актуальных праблемах.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ПОЎНАЯ ЎПЭЎНЕНАСЦЬ

На пленарным пасяджэнні 75-й сесіі Генеральнай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы па дакладу «Правы чалавека — усеагульная адказнасць» выступіў прадстаўнік Беларускай ССР, сакратар Белсаўпрофа В. Булгак.

Прафсаюзы Беларусі, адзначыў ён, разглядаюць абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў працоўных як адзін з галоўнейшых напрамкаў сваёй работы.

Інтэнсіўныя метады гаспадарання патрабуюць новых падыходаў да кіравання працоўнымі рэсурсамі. Увядзенне ў дзеянне Закона аб прадпрыемстве, пераход на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне, павышэнне тэмпаў тэхнічнага пераўзбраення, рост прадукцыйнасці працы павялічваюць маштабы скарачэння некаторых катэгорый людзей, занятых у сферах кіравання і вытворчасці.

Натуральна, узнікае многа новых пытанняў, звязаных з гэтай праблемай. Але самае галоўнае — ёсць поўная ўпэўненасць у тым, што мы маем усе неабходныя магчымасці для іх вырашэння.

У гэтых умовах, падкрэсліў прадстаўнік БССР, прафсаюзы рэспублікі сумесна з гаспадарчымі і дзяржаўнымі органамі ажыццяўляюць комплекс арганізацыйных, сацыяльных, эканамічных і прававых мер па паляпшэнню выкарыстання працоўных рэсурсаў, стварэнню эфектыўнай сістэмы працаўладкавання, пераабучэння і прафарыентацыі насельніцтва.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

СМАРГОНЬ. Такой падзеі за апошнія 25 гадоў у гэтым горадзе не памятаюць. У дваццацівасьмігадовых мужа і жонкі Дзмітрыя і Наталлі Лебедзевых нарадзіліся тры дачкі-блізняты: Валя, Надзя і Таня. Адчуваюць яны сябе добра.

У Лебедзевых падрастаюць яшчэ першакласніца Ганна і пяцігадовы сын Саша.

МІНСК. Непадалёку ад беларускай сталіцы на эксперыментальнай базе «Русінавічы» закладваецца адзін з самых буйных садоў у Беларусі. Яго плошча 790 гектараў. Сад штогод будзе пастаўляць каля 10 тысяч тон садавіны.

ІЎЕ. Першы ў раёне музей гісторыі Прынёманскага краю адкрыўся ў вёсцы Морына. Гэта вёска спрадвеку славілася майстрамі ганчарнага рамяства. Вырабы іх рук і склалі сёння асноўную частку экспанатаў музея.

## БЮДЖЭТ САВЕЦКАЙ СЯМ'І

# ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ

**Ёсць праблемы, якія хвалююць кожнага чалавека, у якой краіне ён ні жыў бы: ці павысяць зарплату і ці не падскочаць цэны? Што можна набыць ужо сёння? Пакупку якіх тавараў прыйдзецца адкласці? Словам, у артыкуле кандыдата эканамічных навук, старшага навуковага супрацоўніка Навукова-даследчага эканамічнага інстытута пры Дзяржплане СССР Аляксея МАЛАВА гутарка пойдзе пра рэальныя працэсы ўнутрысямейнай эканомікі, узровень жыцця савецкіх людзей.**

Разважанні аб сямейным бюджэце будуюцца звычайна на супастаўленні: учора — сёння. Выкарыстаем і мы гэты прыём. Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што з сярэдзіны 50-х гадоў жыццёвы ўзровень насельніцтва СССР няспынна павышаўся. Напрыклад, сярэдняя заработная плата рабочых і служачых з 1965 года павялічылася з 96,5 рубля да 201 рубля ў 1987 годзе. І гэта пры адноснай стабільнасці цэн на асноўныя харчовыя і прамысловыя тавары, платы за жыллё. Палепшыўся састаў харчавання: з 1970 па 1986 год у разліку на аднаго жыхара ў год спажыванне мяса ўзрасло з 47,5 да 62,4 кілаграма, малака і малочных прадуктаў — з 307 да 333 кілаграмаў, яек — з 159 да 268 штук.

І апранацца ў СССР сталі намнога лепш. Пацвярджэннем гэтаму, як ні парадаксальна, могуць служыць гандлёвыя залы магазінаў, дзе шырока прадстаўлены малапрывабныя тавары, міма якіх раўнадушна праходзяць прыгожа апранутыя пакупнікі. Практычна ўсе савецкія сем'і маюць халадзільнікі і тэлевізары, кожная трэцяя — магнітафон, кожная сёмая мае аўтамабіль.

Здавалася б, жыць ды радавацца. Аднак невыпадкова апублікаваныя Дзяржаўным камітэтам СССР па статыстыцы (Дзяржкамстат СССР) даныя аб сямейным бюджэце за 1987 год выклікалі, мяркуючы па пошце, раздражненне чытачоў. Прычым асаблівую нязгоду — падлікі той часткі сямейнага бюджэту, якая нібыта ідзе на харчаванне, — 28,3 працэнта. Сапраўды, гэтая лічба разлічана, зыходзячы з дзяржаўных цэн, аднак далёка не ва ўсіх рэгіёнах краіны жыхары могуць купляць, скажам, «дзяржаўнае» мяса па 2 рублі за кілаграм. Яны вымушаны ісці ў кааператыўныя магазіны ці на рынак, што абыходзіцца ў два-тры разы даражэй.

Не пераадолены ў СССР і дэфіцыт спажывецкіх прамысловых тавараў. Гэта парадждае чэргі, спекуляцыю, садзейнічае працвітанню «ценевай» эканомікі, абясцэньвае рубель, «з'ядае» значную частку прыросту намінальных грашовых даходаў.

Сярод многіх прэтэнзій да даных Дзяржкамстата — іх «абязлічанне». Сапраўды, сярэднія лічбы самі па сабе мала што гавораць. Яны «зайграюць» толькі ў параўнаннях і супастаўленнях. Не будзем і мы змешваць у адну кучу даходы высока- і малазабяспечаных грамадзян. Скажам для параўнання, што самая высокая ў СССР заработная плата — 1 200 рублёў. Яе атрымлівае прэзідэнт Акадэміі навук СССР. Што датычыць пражытачнага мінімуму, то ў навуковым плане яго распрацоўкі вяліся і ў ранейшыя гады, але выкарыстоўваліся толькі ў рамках вузкага кола спецыялістаў. Гэты паказчык лічыўся «нязручным», таму што закранаў адну з вострых праблем — малазабяспечанасць. За гэта ён і быў пазбаўлены афіцыйнага статуту. Цяпер гутарка ідзе аб практычным выкарыстанні гэтых разлікаў, што дазволіць зрабіць іх актыўным інструментам сацыяльнай палітыкі.

Па ацэнках спецыялістаў, на сёння пражытачны мінімум складае каля 80 рублёў у месяц. Будзем глядзець праўдзе ў вочы. Гэта нізкі ўзровень, а доля насельніцтва з даходамі, блізкімі да яго, дастаткова вялікая: у 1986 годзе ў разліку на члена сям'і даход ніжэй за 100 рублёў у месяц мела 35 працэнтаў насельніцтва. Гэта не азначае, вядома, цяжкіх матэрыяльных нястач для такіх сем'яў і не ўкладваецца ў існуючы ў свеце стэрэатып беднасці. У СССР зусім не выключэнне, калі малазабяспечаныя сем'і жывуць у бясплатна прадастаўленых кватэрах, іншы раз у лепшых, чым сем'і з больш высокім даходам. Яны поўнасцю вызвалены ад платы за ўтрыманне дзяцей у дашкольных установах, іх дзеці вучацца ў школах і інстытутах. А чалавек нават з самай нізкай пенсіяй здольны аплаціць рахунак за кватэру і камунальныя паслугі. Гэтыя і многія іншыя расходы сям'і аплачваюцца ў СССР з грамадскіх фондаў спажывання і, натуральна, улічваюцца пры падліку рэальных даходаў насельніцтва.

Даход звыш 150 рублёў у месяц на члена сям'і ў 1986 годзе мела каля 90 мільёнаў жыхароў краіны, ці 31 працэнт агульнай іх колькасці. Грашовыя сродкі сямей з такім даходам дазваляюць ім наблізіцца, а некаторай частцы насельніцтва перавысіць паказчыкі спажывання на ўзроўні рацыянальных норм. Для такіх сямей сёння актуальныя ці ўжо вырашаныя задачы набыцця разнастайнай бытавой тэхнікі, аўтамабіля, такіх тавараў, як відэамагнітафоны, дарагіх прадметаў хатняй абстаноўкі, будаўніцтва добраўпарадкаванага загараднага доміка на садовым участку.

Узняць дабрабыт савецкіх людзей на якасна новую ступень — адна з важнейшых задач, пастаўленых XXVII з'ездам КПСС. Нават адносна невялікі адрэзак часу дазваляе пераканацца, што курс на перабудову скіраваны на прыярытэтнае развіццё сацыяльнай сферы. Прывяду толькі некалькі прыкладаў. За апошнія два гады на 53 працэнты ўзрасла заработная плата настаўнікаў пачатковых класаў, на 33 працэнты — сярэдніх і старэйшых класаў, выкладчыкаў сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў — на 25 працэнтаў. Працягваецца паэтапнае павышэнне заработнай платы ўрачам і іншым работнікам аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння. Павышаны пенсіі 15,6 мільёна пенсіянераў.

Савецкая дзяржава праводзіць мэтанакіраваную і паслядоўную палітыку ў галіне [illegible]велічэння заработнай платы ўсім ка[illegible]рыям працоўных. Шырока абмяркоўваюцца сёння і пытанні павышэння ролі грамадскіх фондаў спажывання, звязаныя з пераразмеркаваннем гэтых сродкаў. Думкі тут неадназначныя. Адны схільныя да ўраўняльных тэндэнцый у размеркаванні дабрабыту, іншыя выказваюцца [illegible]размеркаванне ў залежнасці ад працоўн[illegible] дзейнасці чалавека. Зразумела, у зарплаце «ўраўнілаўкі» быць не павінна: людзі павінны атрымліваць па працы. Дапамога ж сям'і, скажам, у выхаванні дзяцей на працоўныя стымулы не ўплывае. Як бы то ні было, нельга гаварыць аб ліквідацыі малазабяспечанасці «ўвогуле», варта дабівацца большай сацыяльнай справядлівасці. Спрадвечная ж функцыя грамадскіх фондаў спажывання — памагаць тым, хто ў сілу аб'ектыўных прычын мае патрэбу ў дапамозе. За два мінулыя гады дадатковыя расходы дзяржавы на гэтыя мэты склалі 6,4 мільярда рублёў.

Зразумела, усе гэтыя праблемы нельга вырашаць ізалявана, па-за агульнай сацыяльнай палітыкай. Сучасная перабудова гаспадарчага механізма павінна адбіцца і на ўмацаванні эканамічных асноў сям'і. Напрыклад, пераход прадпрыемстваў на самафінансаванне і самаакупнасць, новыя ўмовы гаспадарання і аплаты працы ў канчатковым выніку будуць садзейнічаць павышэнню іх даходаў. Дададзім, што і развіццё індывідуальнай працоўнай дзейнасці, розныя формы кааперацыі могуць стаць істотнай матэрыяльнай дапамогай. І гэтая фактычна новая справа паспяхова развіваецца. Калі на першае мая мінулага года індывідуальнай працоўнай дзейнасцю ў СССР займалася 78 тысяч чалавек, то цяпер гэтая колькасць перавысіла трыста тысяч. За той жа перыяд колькасць кааператываў павялічылася з 35 да 100 тысяч, і кожны месяц колькасць асоб, занятых у іх, павялічваецца на тысячу чалавек.

І, нарэшце, гаворачы аб сямейным бюджэце, нельга не сказаць аб размовах наконт магчымага павышэння ў Савецкім Саюзе цэн. Пераважная большасць эканамістаў, якія займаюцца гэтымі пытаннямі, адзіныя ў думцы: трэба павысіць цэны на прадукты харчавання, прычым значна. На іх дзяржава штогод дае датацыю — каля 57 мільярдаў рублёў. Гэта ў паўтара раза больш чым, траціцца на ўсё жыллёвае будаўніцтва ў краіне. Так што рэформа цэн непазбежна: гэтага патрабуе становішча, якое склалася ў эканоміцы. Але калі яны і будуць павышаны, то, як сказаў М. С. Гарбачоў, ні ў якім разе не за кошт насельніцтва. Будзе забяспечана адпаведная кампенсацыя.

(АДН).



# ДЭЛЕГАТ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ



**З Верай Фядутай, Верай Уладзіміраўнай, бо да настаўніцы ў нас інакш не звяртаюцца, дзе ж было і спаткацца, як не ў школе. Паказала ўсё, як ветлівая гаспадыня, пахвалілася сваім кабінетам гісторыі, дзе яна вядзе ўрокі, расказала пра палітычны клуб «Равеснік», у які ўкладзена столькі душы, пра пісьмы, што атрымлівае ад сваіх выхаванцаў. І запрасіла да сябе на чай.**

**Што мяне ўразіла ў яе кватэры, дык гэта ўся сцяна, да самай столі застаўленая кнігамі, больш за пяць тысяч экземпляраў, і вялікі сібірскай пароды кот, які драмаў, улёгшыся пасярэдзіне пакоя. Потым, калі я г[illegible]тваўся з настаўніцай і зачын[illegible]за сабой дзверы, мне падалося, што ў гэтых двух штрыхах побыту — уся Вера Уладзіміраўна. Чалавек высокаадукаваны, з сучасным узроўнем мыслення, чал[illegible]к, які хоча ведаць значна б[illegible], чым вымагае прафесія і абавязак настаўніка, і звычайная жанчына, якая любіць і ката пагладзіць, і за швейнай машынкай пасядзець, хоча, каб у доме было ўтульна.**

**За чаем пачуў расказ пра сябе, надта сціплы і схематычны, бы радкі анкеты. Сама з сям'і чыгуначнікаў, але захацела стаць настаўніцай. І стала. Гэта ж так проста: сярэдняя школа ў Слоніме, педагагічны інстытут у Гродне. І вось малады гісторык едзе вучыць дзяцей у вясковую школу. Яшчэ ў інстытуце выходзіць замуж за студэнта фізіка-матэматычнага факультэта Уладзіміра Фядуту, які зараз кіруе тым самым калектывам педагогаў, сярод якіх і Вера Уладзіміраўна, — Дзераноўскай сярэдняй школай. А сыну Андрэю, які нарадзіўся, калі яны былі яшчэ студэнтамі, цяпер самому выбіраць будучую прафесію — сёлета канчае дзесяты клас. Як хутка бягуць гады!**

**Школа, якую часта наведваюць розныя дэлегацыі, каб многаму тут навучыцца, — гордасць Веры Уладзіміраўны. Дом і дружная сям'я— яе радасць. Як і ў кожнага з нас, здараюцца ў яе вольныя хвіліны, у якія Вера Уладзіміраўна бярэ кніжку са сваёй хатняй бібліятэкі і тады вакол для яе больш нічога не існуе. Любіць яшчэ згатаваць для мужа і сына нешта смачнае, сесці за машыну і пашыць.**

**Такі чалавек і настаўнік Вера Уладзіміраўна. Але не толькі за гэтыя рысы характару, якасці абралі камуніста Веру Фядуту дэлегатам XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі. Напэўна, больш за грамадзянскую смеласць, за прынцыповую пазіцыю ў перабудове. І ў яе роднай школе, і наогул у народнай асвеце Веру Уладзіміраўну многае цешыць, але многае і не задавальняе. Трывожыць, што школьная рэформа ідзе не так, як хацелася б, што няма пакуль што аб'ектыўных падручнікаў па гісторыі нашай краіны, а без праўдзівай гісторыі як выхаваць Грамадзяніна! Змяніла б яна многае і ў працоўным выхаванні дзяцей.**

**Гэтыя думкі Веры Уладзіміраўны Фядуты адлюстроўваюць не толькі яе асабістую пазіцыю, а погляд на праблемы сённяшняй савецкай школы большасці педагогаў. З гэтымі думкамі і адпраўляецца яна ў Маскву.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. ФЯДУТА са сваімі вучнямі; будзе абнова!; са старшынёй калгаса «Уперад» В. ШЭЎЧЫКАМ, сакратаром партыйнага камітэта калгаса М. ЖЫЛІЧАМ і старшынёй пярвічнай арганізацыі таварыства «Веды» І. ІСКРЫКАМ абмяркоўваюць план лекцый у працоўных калектывах.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**



## „АРАЎ-ПАРКУ“—40 ГАДОЎ

# АСТРАВОК СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ НА АМЕРЫКАНСКАЙ ЗЯМЛІ

Сорак гадоў назад «Араў-парк» быў яшчэ толькі марай для беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, якіх горкі лёс у розныя часы закінуў у Злучаныя Штаты Амерыкі. У гэтай краіне, як вядома, з дарэвалюцыйных часоў аселі мільёны выхадцаў з царскай Расіі. Шэрагі эмігрантаў папоўнілі беларусы і ўкраінцы, якія пакінулі сваю Радзіму да 1939 года, калі на нашых заходніх землях гаспадарыла буржуазная Польшча.

Думка аб набыцці грамадскай фермы, дзе можна адпачываць і праводзіць вольны час, у перадавой часткі славянскай эміграцыі ўзнікла ў сярэдзіне 40-х гадоў. У 1947 яны стварылі «Асацыяцыю фермы АРРОВ», абралі спецыяльную камісію, якой даручылі знайсці адпаведнае месца. Спынілі свой выбар на унікальным кутку прыроды, размешчаным паблізу горада Манро ў штаце Нью-Йорк. 1 мая 1948 года газета нашых суайчыннікаў «Рускі голас» паведамляла: «Ферма куплена!». А каштавала яна тады 182 тысячы долараў. Уся сума была выплачана з добраахвотных узносаў.

4 ліпеня 1948 года адбылося адкрыццё «Араў-парку». У свяце славян-эмігрантаў прынялі ўдзел больш за 3 тысячы чалавек «рускіх амерыканцаў», сярод якіх, вядома, былі і беларусы.

Былы прыватны маёнтак, 600 акраў цудоўнага лесу, маляўнічае возера — сёння гэта месца вядома як «Араў-парк», адкрыты круглы год курорт, культурны цэнтр славян-эмігрантаў.

Першымі сярод энтузіястаў таго пачынання былі Калешка, Бойка, Гайдук, Дзераўнюк, Леўчанка, Зулька, Пілюцік і іншыя. І сёння дырэктарат парку ўзначальвае энергічная дзелавая жанчына Марыя Сімак, бацька якой выхадзец з Беларусі...

У 1949 годзе група юнакоў і дзяўчат стварыла маладзёжны клуб «Араў-парк», пераўтвораны праз некаторы час у грамадскі клуб, арганізацыю, мэта якой — выхоўваць пачуццё любві да Радзімы бацькоў і дзядоў у падрастаючага пакалення, клапаціцца пра адпачынак і занятак маладых. Пры «Араў-парку» створаны гурткі мастацкай самадзейнасці, арганізуюцца вечары, спартыўныя мерапрыемствы, дэманструюцца кінафільмы.

У апошні час з'явілася новая традыцыя: штогод тут святкуюць Украінскі, Руска-беларускі, Польскі дні, на якія звычайна з'язджаюцца сотні людзей з розных куткоў краіны. На сцэне, аформленай у рускім стылі, выступаюць дзеячы культуры, артысты, якія прыязджаюць у «Араў-парк» з Радзімы ў саставе розных груп і дэлегацый.

Дзейнасць яшчэ адной арганізацыі «Араў-парку» — «Культурны праект»,— якую доўгія гады ўзначальваў наш зямляк беларус Уладзімір Мінкевіч, садзейнічае ўзбагачэнню амерыканскай культуры славянскай і ў той жа час «працягвае развіццё славянскага эміграцкага руху, накіраванага на захаванне і развіццё свайго культурнага багацця, выхаванне гордасці за гэтую багатую спадчыну, асабліва ў маладога і наступных пакаленняў».

«Араў-парк» — адзінае месца ў свеце, дзе побач стаяць чатыры помнікі карыфеям рускай, украінскай, амерыканскай і беларускай культуры. Помнікі Пушкіну, Шаўчэнку, Уітмену і Купалу на амерыканскай зямлі ўвасабляюць ідэі інтэрнацыянальнай дружбы людзей розных нацыянальнасцей, для якіх гэта месца стала другім домам. Усё гэта зроблена дзякуючы руплівасці членаў «Культурнага праекта».

Помнік беларускаму песняру Янку Купалу быў адкрыты 1 чэрвеня 1973 года. Мясцовыя газеты пісалі тады: «Тут, у сваім парку, беларусы свабодна гавораць на роднай мове і дзеляцца ўспамінамі пра сваю далёкую Радзіму. ...тысячы людзей сабраліся, каб ушанаваць памяць народнага паэта Янкі Купалы разам з Тарасам Шаўчэнкам, Аляксандрам Пушкіным і амерыканскім паэтам Уолтам Уітменам... Беларусы зрабілі ўсё, каб падзяліцца з амерыканцамі сваім культурным здабыткам, якім яны бясконца ганарацца».

Сёння ў «Араў-парку», як і ўсюды, бадай, ёсць свае праблемы. Адыходзяць у небыццё зачынальнікі высакароднай справы, растуць падаткі і, каб утрымаць свой культурны цэнтр, патрэбны вялікія намаганні. Але нашы суайчыннікі робяць усё для таго, каб не толькі захаваць «Араў-парк» для наступных пакаленняў, а і зрабіць усё магчымае, каб ён і далей заставаўся сапраўдным цэнтрам славянскай культуры на амерыканскай зямлі. Гэта адчуваюць і прадстаўнікі Беларускай рэспублікі, вучоныя, артысты, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, якіх запрашаюць на святкаванне Руска-беларускага дня ў «Араў-парку», якія наведваюць яго з іншай нагоды. На гэтай старонцы некаторыя з іх дзеляцца сваімі ўспамінамі, расказваюць аб найбольш цікавых сустрэчах, уражаннях аб канцэртах, з якімі выступалі перад удзячнымі, добразычлівымі слухачамі.




Помнік Янку Купалу ў «Араў-парку».

**Анатоль АНІКЕІЧЫК,**
**скульптар,**
**народны мастак БССР.**

«Араў-парк» у тое лета адзначаў сваё 25-годдзе і да гэтай падзеі было прымеркавана адкрыццё на яго тэрыторыі помніка Янку Купалу. Ад нашай рэспублікі на ўрачыстасці запрасілі драматурга Андрэя Макаёнка і мяне, аўтара помніка.

За 15 гадоў, што мінулі з таго часу, забыліся многія дэталі, сцёрліся з памяці асобныя імёны, але помніцца святочнасць, урачыстасць, якія валодалі ўсімі намі тады. Памятаю, што ўразіла мяне, як блізка да сэрца прымалі гэту падзею суайчыннікі-эмігранты. Гэта было нагляднае праяўленне дружбы народаў — рускіх, беларусаў, украінцаў. Асобна, як прынцыповае, абмяркоўвалася пытанне, дзе паставіць помнік. Янка Купала стаў побач з Пушкіным. Так на амерыканскай зямлі з'явіўся першы помнік савецкаму паэту.

Па ўсім адчувалася, што да ўрачыстасцей у «Араў-парку» яго гаспадары рыхтаваліся з адказнасцю, сур'ёзна. Гасцей сустракаў плакат, намаляваны вядомым мастаком, на якім у сяброўскім поціску злучыліся рукі. Удзельнікам свята ўручалі значкі і ручкі з партрэтам Янкі Купалы. Помнік адкрывалі пад гукі амерыканскага Гімна, прывітальную тэлеграму прыслаў мэр Нью-Йорка, у якой пісаў, што помнік Я. Купалу будзе не толькі сімвалам збліжэння паміж ЗША і СССР, але і сімвалам справядлівасці.

Для мяне ж самым ашаламляльным быў такі момант. У час мітынгу моладзь размясцілася проста на траве, многія ляжалі, старыя сядзелі на раскладных крэсліцах. Калі я падышоў да мікрафона, адбыўся нейкі рух і ўсе ўсталі. Яны віталі мяне як пасланца сваёй далёкай Бацькаўшчыны, яе прадстаўніка. Памятаю, як, пераадольваючы хваляванне, пачаў расказваць, што стварэнне помніка, які будзе стаяць цяпер на амерыканскай зямлі, таксама праяўленне дружбы народаў. Рабіў яго беларус, граніт быў прывезены з Украіны, а адлівалі яго ў Ленінградзе.

Адкрыццё помнікаператварылася ў свята беларускай культуры на амерыканскай зямлі. Чыталіся вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, танцавалі «Бульбу», «Крыжачок», «Лявоніху». Памятаю, мы з Андрэем Макаёнкам не маглі надзівіцца таму, як заўзята выконваюць амерыканскія хлопцы і дзяўчаты нашы нацыянальныя танцы. Гавару «амерыканскія», таму што вы ведаеце—у ансамблі выступалі дзеці і ўнукі тых, хто нарадзіўся ў Беларусі. Мусіць, голас продкаў — гэта нават сур'ёзней, чым нам часам здаецца. Маладыя імкнуцца да нацыянальнага самавыяўлення, захоўваюць культуру народа, з якога паходзяць.

Тым больш, мусіць, непраходзячы сум па роднай зямлі ў тых, хто калісьці быў вымушаны яе пакінуць. У нечым усе яны абдзеленыя, пазбаўленыя глебы, на якой узраслі. Пераканалі мяне ў гэтым некалькі сустрэч з вельмі рознымі людзьмі. Старая жанчына абавязкова хацела перадаць праз нас грошы для сваёй вёскі на Палессі, каб там пабудавалі прыстань. Такога ж немаладога веку чалавек працягнуў мне складзеную паперку, заплакаў і пайшоў. Я разгарнуў яе, думаў, просьба якая. А там імя і прозвішча, звесткі, што бацька прывёз яго ў 20-я гады з Беларусі ў Амерыку. Чалавек проста хацеў, каб яго ведалі на Радзіме, каб яго помнілі там.

І яшчэ адна сустрэча. Мужчына ў фрэнчы ваеннага крою шчоўкнуў перада мной абцасамі і сказаў: «Дзякуй вам, я ўспомніў сваю вёску». А потым усё ж не ўтрымаўся і з'едліва спытаў, чаму такі журботны мой Купала.

— А якім жа ён можа быць тут, на чужой зямлі?— у сваю чаргу спытаў я. — Ні вясёлым, ні адухоўленым я яго сабе тут не ўяўляю. Купала павінен прыжыцца. Стаць сваім сярод сваіх людзей, якія будуць да яго прыходзіць. Ён павінен падзяляць іх сум па пакінутай Бацькаўшчыне.

**Вікторыя МАЗУР,**
**заслужаная артыстка БССР.**

Дзве паездкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, першы і другі раз канцэрты ў «Араў-парку», хвалюючыя сустрэчы з землякамі. Паміж паездкамі дзесяць гадоў: 1978 і 1988. Міжволі параўноўваеш, супастаўляеш. Сям'я Клімовічаў, Марыя Рыбак, Вера Гетман — з імі я пасябравала, яны былі маімі гідамі і гасціннымі гаспадарамі. Дзесяткі іншых людзей — беларусаў, украінцаў, рускіх — пра якіх помню, захоўваю пачуцці павагі і ўдзячнасці. На зямлі, на чужой зямлі, дзе лёс наканаваў ім жыць, яны захоўваюць сваю культуру, мову, звычаі.

У маім рэпертуары былі вельмі розныя творы — і класіка, і народныя песні, і песні савецкіх кампазітараў. Але я разумела, што павінна данесці да маіх замежных слухачоў мастацтва, музыку беларускага народа. Думаю, мне гэта ўдалося. Нашы песні ўспрымаліся вельмі эмацыянальна, я б сказала, нават з энтузіязмам.

Я ведала, што ў «Араў-парку» пастаўлены помнік Янку Купалу, але ўсё роўна сустрэча аказалася нечаканай. Ішла па алеі і... раптам Купала. Сэрца страпянулася: такое гэта ўсё сваё, роднае. Многа прыемных нечаканасцей было ў «Араў-парку». І кірмаш, дзе прадаваліся беларускія сувеніры, іншыя нацыянальныя рэчы, кнігі. Мне нават падалося, што я ў Мінску, у парку Горкага. Увесь час не пакідала адчуванне, што прыехала да сваіх людзей. І сапраўды, «Араў-парк» — часцінка нас у Амерыцы, астравок славянскай культуры на чужым кантыненце. Я думаю, было б непапраўнай стратай, каб ён перастаў існаваць.

Чым выклікана мая трывога, занепакоенасць? Я невыпадкова пачала з таго, што прыгадала: паміж маімі дзвюма паездкамі адрэзак часу ў 10 гадоў. Прыехаўшы другі раз, убачыла не ўсіх, з кім чакала сустрэчы. Часцей, чым раней, чулася англійская мова. Знаёмыя скардзіліся, што цяжэй становіцца працаваць, высокія падаткі. Я слухала, спачувала і ўвесь час думала: «Араў-парк» павінен жыць!» Многае залежыць ад моладзі, ад наступных пакаленняў. Хочацца, каб яны разумелі, што без «Араў-парку» будзе цяжка і ім.

**Аляксандр ЛЯВОНЧЫК,**
**артыст Беларускай**
**дзяржаўнай філармоніі.**

«Араў-парк» — цудоўнае, прыгожае месца. Многа сіл, працы ўклалі нашы суайчыннікі, каб гэты куточак амерыканскай зямлі стаў такім прывабным, цёплым. А можа, гэта адбылося яшчэ і таму, што такія прыязныя, добразычлівыя людзі яго гаспадары.

Кожнаму артысту надзвычай важна, як яго прымаюць, як слухаюць. Рэакцыю і настрой залы звычайна адчуваеш з першага нумара. У «Араў-парку», дзе ў мяне быў не адзін канцэрт, кантакт са слухачамі ўстанаўліваецца адразу. Пра такіх удзячных, зацікаўленых слухачоў кожны артыст можа толькі марыць.

Цымбалы — інструмент на амерыканскім кантыненце невядомы. Такіх, як нашы беларускія цымбалы, няма больш ні ў адной краіне. Мне хацелася паказаць іх неабмежаваныя магчымасці. Таму я іграў вальсы Штрауса, раманс «Я сустрэў вас» і беларускія народныя танцы, мелодыі ў апрацоўцы нашага славутага музыканта Іосіфа Жыновіча.

Іменна народнае мастацтва з'яўляецца ніццю, якая звязвае людзей. Я бачыў слёзы на вачах слухачоў, разумеў, што ў той момант яны былі толькі беларусамі, рускімі, украінцамі, а не амерыканцамі. Песня абуджала нацыянальную, глыбінную сутнасць кожнага з іх. Роднае мастацтва, народная культура — гэта тое, чаго Амерыка даць ім так і не змагла.

Амерыканцы вельмі любяць быць першымі. Калі ўбачыў Янку Купалу ў «Араў-парку», падумаў: добры прыярытэт у амерыканцаў перад іншымі народамі. Помнік нашаму песняру ёсць толькі ў Беларусі і ў Амерыцы.

Я зараз рыхтую новую праграму. У ёй цымбалы будуць гучаць разам з гітарай. Гэта пашырае магчымасці, разам з намі будзе выступаць спявак. Магчыма, давядзецца выступіць і перад суайчыннікамі ў Амерыцы. Сувязі паміж СССР і Злучанымі Штатамі цяпер пашыраюцца, адносіны паміж нашымі краінамі становяцца ўсё больш прыязнымі.

**Матэрыялы падрыхтавала**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

ИНТЕЛЛИГЕНЦИЯ ЭСТОНИИ ОБРАЩАЕТСЯ К ПАРТИЙНОМУ ФОРУМУ

# УТОЧНИТЬ КОНСТИТУЦИОННЫЕ ГАРАНТИИ

Совет по культуре, новая общественная организация, созданная по инициативе «снизу» в мае 1987 года, объединила творческую интеллигенцию Эстонии. «Теневой кабинет», как назвал его секретарь ЦК компартии Эстонии И. Тооме, «развил значительную политическую активность, его позиция оказала влияние на принятие важнейших экономических решений в республике».

Недавно по инициативе Совета был проведен объединенный пленум правления творческих союзов. На нем интеллигенция Эстонии решила направить письмо в адрес XIX партконференции, в котором, в частности, призвала партийный форум проанализировать объективные экономические и политические противоречия развития нашего многонационального государства, вызвавшие обострение межнациональных отношений, предложила уточнить конституционные гарантии суверенитета союзных республик.

### ПО ЛОГИКЕ ДЕМОКРАТИЗАЦИИ

Значительное количество предприятий на территории Эстонской ССР находится в подчинении союзных министерств и ведомств. Республиканские органы власти не имеют возможности контролировать строительство и работу этих предприятий, но вынуждены затем решать многочисленные проблемы, вызванные их деятельностью.

Необходимо внести в Конституцию СССР изменения, касающиеся взаимоотношений между добровольно объединившимися в Союз республиками и союзными органами власти, разграничить права и обязанности граждан в отношении СССР и союзной республики, считают участники пленума. Их критике подвергаются те положения Конституции, по которым всесоюзным ведомствам дается неограниченная власть в управлении хозяйственной жизнью на территории союзных республик. Союзные республики должны иметь паритетные права в формировании центральных органов управления, принимать большее участие в решении общегосударственных экономических и политических вопросов.

Излишняя централизация тормозит международный экономический, информационный и культурный обмен союзных республик. Творческая интеллигенция Эстонии предлагает обеспечить представительство СССР в международных культурных, научных, спортивных организациях на уровне республик.

Назрела необходимость, говорится в письме, в принятии Закона о федеративном устройстве многонационального социалистического государства, который бы определял компетенцию всех национально-государственных образований СССР, защищал национально-культурный плюрализм нашего общества. Для того чтобы конституционные тезисы были реально претворены в жизнь, необходима надежная система общественного контроля, включая Конституционный суд.

### РЕСПУБЛИКА НА ХОЗРАСЧЕТЕ

Одним из ключевых вопросов перестройки является слом закостеневшей бюрократической машины, приведшей наше общество на грань экономического и политического кризиса, отмечается в письме. В национальных республиках всевластие бюрократии проявляется в виде узаконенного самоуправства всесоюзных министерств и ведомств. В результате на местах возникает убыточная экономика, растет бесконтрольная миграция, увеличивается угроза экологических катастроф, деградирует социально-культурная сфера. Эстония не является исключением.

Так, Министерство минеральных удобрений СССР игнорирует угрозу экологического загрязнения республики, продолжает развивать производство фосфоритов. Многие решения союзных министерств не обоснованы экономически. Пленум назвал в качестве примера увеличение добычи сланцев не как ценного сырья для химической промышленности, а как топлива для электростанций.

Поскольку в Эстонии нет избытка рабочей силы, то предприятия союзного подчинения стимулируют бесконтрольную миграцию в республику. Это создает сложный комплекс социальных и национальных проблем.

Пленум отметил необходимость последовательной децентрализации управления экономикой. Отказ от ведомственного принципа в пользу регионального будет означать удар по власти бюрократии. Когда население республики станет полноправным хозяином богатства, производимого на ее территории, а отношения между республиками будут строиться на принципах взаимовыгодного эквивалентного обмена — это обеспечит заинтересованность производителя в результатах своей деятельности, возродит чувство ответственности за судьбы своей «малой родины» у населения республики. Этим руководствовалась группа ученых Эстонии, выдвинувших идею республиканского хозрасчета.

### ДЕМОКРАТИЗАЦИЯ И КРИЗИС ДОВЕРИЯ

Творческая интеллигенция выступает за углубление демократии и гласности в жизни страны. В первую очередь эти процессы должны затронуть деятельность Советов народных депутатов. Среди предложений, адресованных партконференции,— придание деятельности Советов определенного профессионализма и постоянства, закрепление за союзными республиками права вырабатывать собственные положения о выборах, учитывающие уровень политической культуры и традиции конкретных республик, полная гласность деятельности Советов народных депутатов, обеспечение в законодательном порядке гарантий проведения референдумов по важнейшим вопросам общественной жизни в масштабе страны и республики.

Участники форума творческой интеллигенции пришли к выводу о необходимости увековечить память жертв сталинских репрессий. «В целях морального искупления вины за прошлое и предотвращения беззаконий в будущем считаем необходимым на конференции дать оценку сталинским репрессиям как преступлениям против человечности, партии, Советской власти»,— записано в письме.

Подчеркнув, что от руководства ждут большей инициативы и принципиальности при отстаивании интересов и конституционных прав республики, пленум выразил недовольство деятельностью первого секретаря ЦК КПЭ К. Вайно и Председателя Совета Министров республики Б. Саула.

Всесоюзной партконференции, заявили участники пленума, полезно было бы дать принципиально новый толчок демократическому обновлению кадров, отказавшись от «анкетного» принципа, ограничив пребывание на всех выборных должностях двумя отчетными сроками.

(АПН).

# ОКЕАН — ПАРТНЕРАМ НЕ ПРЕГРАДА

«За будущее планеты мы несем общую ответственность», — подчеркнули участники международного форума по тепло- и массообмену, который завершил работу в Минске.

— Учеными из 24 стран рассмотрены самые актуальные вопросы выработки и сохранения энергии, повышения эффективности ее использования, — сказал член-корреспондент АН СССР Л. Биберман. — Определены основные направления исследования в области тепло- и массообмена с тем, чтобы наиболее полно использовать имеющиеся в каждой стране возможности.

Одним из важнейших практических итогов форума стало подписание протокола об создании первого в Белоруссии совместного советско-американского предприятия «ИТМО—Хемисфера». Деловыми партнерами в издании современной научной литературы стали Академия наук БССР и крупнейшее американское издательство «Хемисфера паблишинг корпорэйшн».

ДИСКУССИЯ ОБ ОТМЕНЕ СМЕРТНОЙ КАЗНИ В СССР

# КТО «ЗА», КТО «ПРОТИВ»?

Процессы демократизации в СССР радикально меняют общественное представление о многом, еще вчера воспринимавшемся как бесспорное, в том числе и в области права. Об этом свидетельствует широкая дискуссия, развернувшаяся вокруг предстоящей реформы уголовного законодательства. И, пожалуй, наиболее эмоционально обсуждающийся в ходе её вопрос связан со степенью наказания за совершенные преступления, а особенно с применением в СССР смертной казни.

В этом вопросе общественность страны пока расколота на две неравные части. Большинство выступает за сохранение этой меры наказания, видя в ней наиболее радикальное средство борьбы с особо опасными преступлениями. В то же время в ходе дискуссии все громче звучат голоса о том, что социалистическая мораль не должна мириться даже с узаконенным лишением жизни, совершаемым как возмездие государства за особо тяжкие преступления.

Один из сторонников такой точки зрения — известный юрист, руководитель сектора теории и социологии уголовного права Института государства и права Академии наук СССР профессор **Александр ЯКОВЛЕВ.**

— В ныне действующем советском уголовном законодательстве,— поясняет он,— смертная казнь обозначена как временная мера и названа «исключительной», существующей «впредь до полной ее отмены» (ст. 22 Основ уголовного законодательства Союза ССР и союзных республик). Однако за последние десятилетия сфера ее применения даже несколько расширялась. Помимо возмездия за умышленные убийства при отягчающих обстоятельствах, измену Родине, диверсии и террористические акты она включила в себя также наказания за некоторые экономические преступления— хищения социалистической собственности в особо крупных размерах, подделку денег, особо крупные валютные махинации и т. д. «Временная мера», грозящая стать правилом, тем самым выявляет свою неэффективность. В жизни так и произошло: ужесточение наказаний к уменьшению преступности отнюдь не привело.

Почему? Да потому, что уголовная репрессия, выступая в данном случае как реакция на рост экономических преступлений, означала, по существу, подмену содержательного решения проблемы борьбы с ними неким паллиативом. Ужесточить наказания за экономическую преступность, конечно же, несравненно легче, чем провести реформу тех отношений, которые ее порождают. Но ведь и результаты при этом оказываются несопоставимыми.

Сейчас ситуация меняется именно в главном. Глубокая хозяйственная реформа, которая начата в стране, предусматривает полный отказ от внеэкономических методов управления, а ведь в глубинной своей сути именно они лежали в основе многих хозяйственных преступлений. Обретает реальную основу надежда на ликвидацию корней экономической преступности. А это значит, что возрастает и возможность отказаться от применения смертной казни за эти виды преступлений, заменив её какими-то другими мерами наказания.

**— Согласен, что никакая, даже самая крупная сумма украденных денег не может быть соразмерна ценности человеческой жизни. Но как быть с теми, кто покушается на саму эту жизнь — с бандитами, убийцами? Разве им не следует за их преступления воздавать по заслугам?**

— Конечно же, следует. Пусть это будет самое строгое, суровое наказание, вплоть до пожизненного заключения, но — не смертная казнь! Принцип «око за око» делает смерть юридически правомерной, звеном в цепи мщения, развивает в обществе жестокость нравов, исключает возможность исправления трагических судебных ошибок (а такие случаи, к сожалению, есть).

Я принадлежу к тем, кто связывает все свои надежды с демократическим совершенствованием нашего общества. Нынешняя перестройка предполагает самую активную нетерпимость к беззаконию, социальной несправедливости. Но она также немыслима без воспитания гуманизма: даже по отношению к тем, кто этот гуманизм однажды попрал.

**— А каковы доводы ваших оппонентов, тех, кто выступает за сохранение смертной казни — хотя бы за ограниченный круг преступлений?**

— Большинство из них опасается, что отмена «исключительной меры» наказания вызовет рецидив особо опасных преступлений. Личная безопасность ассоциируется у сторонников такого взгляда на вещи со страхом преступника перед смертной казнью. Насколько это соответствует реальностям? Судебная статистика свидетельствует, что страх перед наказанием как средство предупреждения преступности играет весьма скромную роль.

И наоборот, смягчение, по возможности, наказания способствует уменьшению случаев нарушений закона, большему «проценту» возврата вчерашних преступников к нормальной жизни.

**— А что думают по поводу отмены смертной казни ваши коллеги-юристы?**

— Большинство из них эту идею поддерживает, хотя и с оговорками. Предлагается, например, идти к такой цели поэтапно, постепенно. Уже сейчас, скажем, закон исключает применение казни по отношению к лицам, не достигшим 18 лет, к беременным женщинам. Следующим шагом, вероятно, могло бы стать исключение ее применительно ко всем женщинам, к мужчинам старше 60 лет и т. д.

Есть, впрочем, и откровенные противники отмены казни.

Как правило, эти люди оперируют не аргументами, а обобщениями типа «народ к этому не готов», «нас не поддержит общественность». Я согласен с тем, что мы не имеем права отрываться от уровня общественного правосознания. Но считаю при этом, что и плестись у него в хвосте мы не можем. Тем более этого не должны делать те, кому принадлежит право окончательного решения — наши законодатели. Ведь мудрый законодатель потому и мудр, что в своих решениях он руководствуется не эмоциями, а рассудком, соображениями высшего гуманизма.

**— Позвольте сформулировать вопрос предельно прямо: ожидаете ли вы, что отказ от «исключительной меры» наказания станет составной частью предстоящей реформы уголовного законодательства?**

— Реально я ожидаю отмены казни за все преступления, не связанные с лишением жизни другого человека. Что же касается полной ликвидации этого вида наказания, то уверенности, что это произойдет в ближайшее время, у меня, честно говоря, нет. Наше общественное мнение, как мне представляется, пока и в самом деле не готово к такому шагу. Путь к нему пройдет через дискуссии, откровенный и непредвзятый обмен мнениями: через опыт преодоления старых подходов — он становится тем большим, чем дальше заходит демократическая перестройка в советском обществе.

На мой взгляд, отмена смертной казни могла бы содействовать дальнейшей гуманизации советского общества: безусловно, одной из центральных задач, решаемых перестройкой. Такое решение явилось бы как свидетельством великодушия советского общества, так и проявлением его внутренней силы.

**Валерий ТЕЛЕГИН.**

## ШТО Ў ПАРТФЕЛІ АБ'ЯДНАННЯ

# ПЕРШЫЯ КРОКІ ВІДЭАІНДУСТРЫІ

Паводле даных спецыялістаў, сёння ў свеце налічваецца каля 135 мільёнаў відэамагнітафонаў, прытым у сацыялістычных краінах нешта каля трох мільёнаў і прыкладна трэць гэтай колькасці прыпадае на СССР. Іменна прыкладна. Больш дакладна сказаць вельмі цяжка, паколькі ў савецкіх уладальнікаў відэа да сённяшняга дня былі сур'ёзныя падставы не занадта афішыраваць сваё набыццё: вульгарнае трактаванне правіцыйнымі бюракратамі артыкула Крымінальнага кодэкса аб тым, што глядзець можна, а што не, прыводзіла да сумных выпадкаў, калі ў канфлікт з юстыцыяй уцягваліся людзі, якія глядзелі ў сябе дома, скажам, фільм «Хросны бацька»...

У Савецкім Саюзе відэа пачало пашырацца значна раней, чым з'явілася дзяржаўная арганізацыя, якая каардынуе вытворчасць і распаўсюджанне відэапрадукцыі. І к лістападу 1986 года, гэта значыць к таму моманту, калі было створана Усесаюзнае вытворча-творчае аб'яднанне «Відэафільм», у краіне існаваў ужо даволі шырокі падпольны відэарынак, які прапанаваў сваім кліентам каля дзесяці тысяч назваў фільмаў і відэапраграм.

«Нам удалося ўстанавіць, — гаворыць рэжысёр Алег Уралаў, генеральны дырэктар «Відэафільма», намеснік старшыні Дзяржкіно СССР, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР, — што толькі мізэрная частка асартыменту падпольнага рынку—гэта адкрыта парнаграфічныя ці антысавецкія стужкі. Што ж тычыцца насілля, то яго, шчыра кажучы, сёння і ў некаторых айчынных фільмах дастаткова. У большасці сваёй па відэа глядзяць або папулярныя творы сусветнага экрана, якія ў свой час не былі набыты для пракату ў СССР, або музычныя відэакліпы, або ролікі вучэбных праграм. Забараняць запісы апошніх трох тыпаў няма сэнсу. Больш таго, уступаючы ў канкрэтную барацьбу з падпольным рынкам, наша аб'яднанне плануе прапанаваць савецкаму гледачу ўсё тое ж самае (толькі значна больш высокай якасці запісы) плюс многае звыш таго».

Як гаворыць Уралаў, замежная відэапрадукцыя, якая паступае па неафіцыйных каналах, апярэджвае ў попыце савецкія стужкі, а менавіта іх запісы і складалі рэпертуар першых савецкіх дзяржаўных відэасалонаў. Акрамя таго, значная частка насельніцтва краіны (каля 60 мільёнаў чалавек), якая жыве ў прыгранічных раёнах, мае магчымасць глядзець і запісваць на касеты замежныя фільмы і тэлеперадачы.

Апярэдзіць канкурэнтаў «Відэафільм», паводле [illegible]оў Уралава, зможа, толь[illegible] лічваючы інтарэсы аўдыто[illegible]. У аб'яднанні ёсць свае прапановы накошт гэтага: арганізацыя падпіскі (у крэдыт, таму што цэны на відэапрадукцыю ў СССР яшчэ вельмі высокія) на тэматычныя праграмы фільмаў, на зборы твораў вядомых рэжысёраў (скажам, Труфо, Каполы, Абуладзе, Клімава і г. д.), а таксама на фільмы папулярных жанраў. У перспектыве — продаж відэакасет у кінатэатрах, дзе можна было б набыць толькі што прагледжаную прэм'ерную карціну, распаўсюджанне касет са спецыяльнымі праграмамі (напрыклад, у магазінах кветак — для садаводаў, у аўтасервісе — для аўтааматараў і г. д.). У бліжэйшы час «Відэафільм» плануе заняцца стварэннем відэаэнцыклапедый — спорту, музыкі, выяўленчага мастацтва. Адкрыццё з дапамогай відэа запаснікаў савецкіх музеяў пэўна зацікавіць не толькі айчынных, але і замежных аматараў мастацтва, а значыць, пашырацца магчымасці для экспарту.

Свой экспартны актыў «Відэафільм» плануе скласці таксама з фільмаў-опер і фільмаў-балетаў. У бліжэйшай будучыні пачнуцца здымкі відэасерыяла па творах Сяргея Рахманінава. Здымкі цікавых тэатральных пастановак умацуюць пазіцыі «Відэафільма» і на ўнутраным рынку. Ёсць цікавыя планы ў галіне асветніцкай дзейнасці: па-першае, вучэбныя відэадапаможнікі па асноўных школьных курсах, па-другое, разнастайныя праграмы на нацыянальных мовах саюзных рэспублік.

Уралаў гаворыць, што ў сваёй рабоце «Відэафільм» сутыкаецца пакуль з мноствам праблем: тут і адсутнасць сучаснай тэхнікі і памяшканняў, дзе б можна было весці здымкі ўласных фільмаў, і недахоп кваліфікаваных кадраў, і бюракратычныя перашкоды для прамога выхаду на замежных партнёраў, і цяжкасці ва ўзаемаадносінах з айчыннымі кінаарганізацыямі. Паколькі да нядаўняга часу «Відэафільм» практычна не мог здымаць фільмы самастойна, стужкі па яго заказу рабіліся на многіх кіна- і тэлестудыях краіны, дзе, па праўдзе кажучы, амаль ніхто не ведаў, чым павінен адрозніваццa відэафільм ад звычайнай кінакарціны.

У вырашэнні шэрагу праблем ужо сёння тое-сёе ўдалося зрабіць. З'явілася памяшканне: Массавет выдзеліў «Відэафільму» ў Сакольніках (маляўнічы раён Масквы) адну са старых сядзіб. Рамонтныя работы тут ідуць паралельна з устаноўкай апаратуры. Не чакаючы завяршэння таго і другога, «Відэафільм» пачаў уласныя здымкі. Сярод фільмаў, якія выйдуць пад маркай новага аб'яднання, звяртаюць на сябе ўвагу экранізацыі найбольш рэпертуарных п'ес, твораў літаратурнай класікі (напрыклад, «Зойкіна кватэра» Міхаіла Булгакава).

«Відэафільм» аб'ядноўвае пад сваёй эгідай сем студый, і кожная стане своеасаблівай школай-студыяй, дзе будуць не толькі здымаць фільмы, але і рыхтаваць кадры (так, у мультыплікацыйную студыю ўжо набрана 15 стажораў). Узначаляць [illegible] буйнейшыя рэжысёры, т[illegible] як Мікіта Міхалкоў.

Вялікае значэнне надае «Відэафільм» супрацоўніцтву з замежнымі партнёрамі. У партфелі аб'яднання ёсць, напрыклад, цікавая прапанова англійскіх кінабізнесменаў на сучасную пастаноўку серыі вострасюжэтных фільмаў для моладзі. «Відэафільм» спадзяецца ажыццявіць сумесна з японскімі партнёрамі мультыплікацыйную экранізацыю «Віцязя ў тыгравай шкуры» грузінскага класіка Шата Руставелі, плануе зняць савецка-турэцкі фільм аб «адкрыцці» Троі, а таксама некалькі эстрадных відэапраграм пры ўдзеле еўрапейскіх і іншых фірм. Магчыма, будзе рэалізаваны план аб стварэнні сумесна з ЮНЕСКО відэаэнцыклапедыі чалавечай дзейнасці. Англійскія, амерыканскія і французскія фірмы прапануюць «Відэафільму» арганізаваць сумесныя студыі... Гэтыя прапановы таксама абмяркоўваюцца.

«Відэафільм» аказвае садзейнне замежным калегам, якія вядуць здымкі ў СССР. Так быў зняты фільм аб паездцы Адрыяна Чэлентана ў Маскву. «Відэафільм» прыняў удзел у здымках амерыканскага дэтэктыўнага фільма «Чырвоная гарачыня», дзе галоўную ролю сыграў Арнольд Шварцэнегер.

Кіраўніцтва «Відэафільма» мае намер развіваць уласную сетку пракату. У краіне ўжо дзейнічаюць відэабары, ёсць відэааўтобусы, відэавагоны, з'явяцца відэасамалёты і г. д. Да канца года адкрыецца тысяча відэасалонаў.

Сёння ў каталогу «Відэафільма» 980 праграм. К 1990 году аб'яднанне будзе выпускаць прадукцыі на 100 гадзін, а к 1995-му — на 300 гадзін штогод. Відэаіндустрыя ў Савецкім Саюзе робіць толькі першыя крокі, але перспектывы яе развіцця вельмі абнадзейваючыя.

Рыгор МАЙЗУС.

## «ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС!»

Пад такім дэвізам у мінскім Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага прайшло традыцыйнае Коласаўскае свята паэзіі.

Гучаць цымбалы і піяніна (выканаўцы — А. Лявончык і заслужаная артыстка БССР Л. Максімава). Заслужаная артыстка БССР Р. Маленчанка чытае ўступ да паэмы «Сымон-музыка» — «Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...» і перадае слова вядучаму сустрэчы — лаўрэату Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Сяргею Законнікаву.

«У кожнага народа ёсць свае духоўныя арыенціры, — зазначае ён. — Для беларусаў такімі арыенцірамі з'яўляюцца нашы песняры Янка Купала і Якуб Колас. Калі мы маем такую духоўную спадчыну, якую яны пакінулі, то гэты народ будзе заўсёды ісці верным шляхам і не збівацца з яго».

Заслужаны работнік культуры БССР сын Якуба Коласа Даніла Міцкевіч нагадвае прысутным, што непадалёку ад эстрады, на якой ён зараз выступае, стаяў дом, дзе з 1927 па 1941 год жыў Колас. Тут ім напісаны многія творы.

Дапаўняе Данілу Канстанцінавіча рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Галіна Уладзімірская. Іх сям'я калісьці жыла па суседству з Коласавай, і адносіны былі вельмі прыязныя.

Слова песняра на ўсіх этапах гісторыі народа было з ім, яно клікала, вяло людзей у бой падчас свяшчэннай вайны з фашызмам. Пра гэта гаварыў пісьменнік Мікола Татур.

Вершы, прысвечаныя незабыўнаму дзядзьку Якубу, прачыталі лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Пятро Прыходзька, паэт Васіль Жуковіч, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Мікола Мятліцкі.

Творы Якуба Коласа выканалі заслужаныя артысты рэспублікі Г. Рыжкова і П. Дубашынскі.

С. ІВАНЧЫК.

## ЖЫВАПІСЕЦ-АМАТАР

У выставачнай зале Ушацкага музея народнай славы адкрыта юбілейная выстаўка самадзейнага мастака Дзям'яна Крупені.

Лёс небагата адвёў яму часу для таго, каб сядзець за партай з алоўкам у руках — вучыла працоўнае маленства, партызанскае юнацтва.

Вучоба ў завочным Усесаюзным універсітэце народнага мастацтва імя Н. К. Крупскай на факультэце жывапісу ўзбагаціла Д. Крупеню ведамі, адкрыла сакрэты мастацтва.

Жывапісцам - аматарам Дзям'янам Крупенем напісана больш за 50 карцін. На іх — жыццё роднай Ушаччыны, яго землякоў. Многія работы мастака экспанаваліся ў Мінску і Вільнюсе, Віцебску і Маскве, з імі паэнаёміліся жыхары Англіі, Чэхаславакіі, Венгрыі і ГДР.

Сёння Дзям'ян Крупеня працуе дырэктарам сельскага Дома культуры, кіруе студыяй выяўленчага мастацтва, дзе займаюцца дзеці хлебаробаў.

М. КІРПІЧ.

## ФОНД КУЛЬТУРЫ Ў КАЛГАСЕ



**Вяртаць культуру народу — галоўны клопат Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры. Актыўна працуе ў гэтым напрамку Савет садзеяння Фонду культуры ў калгасе - камбінаце «Барацьба» Пухавіцкага раёна. У аснове яго дзейнасці — праграма культурнага адраджэння вёскі. Знаць свае гістарычныя карані, народныя і мясцовыя традыцыі дапамагае сяльчанам багатая экспазіцыя гісторыка-краязнаўчага музея. Ён створаны і працуе пры Пяржырскай сярэдняй школе. Ёсць у калгасе і свая карцінная галерэя. Музей і галерэя займаюць некалькі вялікіх залаў. З захапленнем і веданнем справы праводзіць экскурсіі грамадскі ахоўнік музея загадчыца Узлянскай сельскай бібліятэкі Т. Крупень. У калгасе плануецца далейшае расшырэнне карціннай галерэі, будаўніцтва сучаснага Палаца культуры. У Фонд культуры гаспадарка пералічыла ўжо пяць тысяч рублёў.**

**НА ЗДЫМКАХ:** у калгасным музеі; члены Савета садзеяння Фонду культуры старшыня Савета Анатоль КУЛЬБІЦКІ, сакратар парткома калгаса-камбіната Анатоль КЛІНДЗЮК, старшыня Узлянскага сельскага Савета Іван СКАВЫШ, сакратар камітэта камсамола калгаса Ігар НЕВЯРОЎСКІ і прараб-будаўнік Зінаіда СУПРАНОВІЧ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

*ХУТКА ВЫЙДЗЕ Ў СВЕТ АЛЬБОМ ПРА МАСТАЦТВА ДЭКАРАТАРАЎ*

# ДЛЯ ТЭАТРА І КІНО

Мастацтва дэкаратараў — гэта дзівосны, непаўторны свет фарбаў, нечаканых пераўтварэнняў, светлавых эфектаў і цудаў. Менавіта мастак-дэкаратар на працягу толькі аднаго спектакля дае магчымасць пабываць нам у казачным палацы і зімовым лесе, горнай цясніне і на беразе возера, на святкаванні каляд і паэтычнага Купалля. Але не толькі казачны свет паказвае дэкаратар, ён стварае вобраз асяроддзя, у якім знаходзяцца героі твора. Гэта старонкі гісторыі і жыцця нашага сучасніка. Самыя розныя задачы вырашаюць мастакі тэатра, кіно, тэлебачання, мультыплікацыі, лялечнага тэатра і майстры па касцюмах.

Шмат выдатных мастакоў працавала і сёння працуе ў тэатрах Беларусі. Іх творчасць складае адну з цікавых старонак нацыянальнага мастацтва. Творы А. Марыкса, С. Нікалаева, Я. Чамадурава, Я. Нікалаева, П. Масленікава, І. Ушакова, А. Грыгар'янца, Ю. Тура, Б. Герлавана, Я. Ждана, А. Салаўёва і многіх іншых атрымалі шырокую вядомасць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі.

Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва рэспублікі — цікавая і мала даследаваная галіна ў беларускім мастацтвазнаўстве. Між тым у тэатрах рэспублікі набыты значны вопыт работы мастакоў-дэкаратараў, які патрабуе ўсебаковага вывучэння. Прыемна адзначыць, што сёлета ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе з друку багата ілюстраваны альбом «Мастацтва беларускіх дэкаратараў» на беларускай, рускай, англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай мовах.

У гэтай кнізе чытачы змогуць прасачыць шматвяковую гісторыю тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва, элементы якога мы знаходзім у народных ігрышчах, рытуальным адзенні і атрыбутах валачобнікаў, калядоўшчыкаў, прадстаўленнях скамарохаў, у народнай драме, кірмашовым і школьным тэатры, а таксама ў батлейцы. З уступнага артыкула чытачы даведаюцца пра афармленне спектакляў у гарадскіх і маёнткавых прыгонных тэатрах, якіх на тэрыторыі Беларусі было больш трыццаці. У XVIII — пачатку XIX стагоддзяў яны ўзніклі ў многіх гарадах і маёнтках. Прыгонныя тэатры існавалі ў Нясвіжы, Магілёве, Гродне, Шклове, Слуцку, Слоніме, Свіслачы, Дукоры, Чачэрску, Ружанах. Па свайму мастацкаму ўзроўню былі яны неаднолькавыя. Адны з іх прыбліжаліся да прафесійнага тэатра і часам мелі камерцыйны характар, другія былі прызначаны для задавальнення нораву і густу свайго гаспадара. Вялікія памеры сцэны, складаная машынерыя дазвалялі мастакам ствараць яркае, відовішчнае афармленне, якое ўражвала гледачоў сваёй пышнасцю і багаццем.

Альбом знаёміць з дзейнасцю музычна-драматычнага гуртка В. Дуніна-Марцінкевіча, тэатраў І. Буйніцкага, У. Галубка, з аматарскімі калектывамі.

Найбольш поўна паказаны савецкі перыяд, калі мастацтва стала здабыткам працоўнага народа. У ім знайшлі адлюстраванне ўсе этапы развіцця сацыялістычнага грамадства. Гэта 20- і 30-я гады, калі былі ажыццёўлены пастаноўкі п'ес «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Кастусь Каліноўскі» і «Машэка» Я. Міровіча, «Прымакі» і «Паўлінка» Я. Купалы, «Кацярына Жарнасек» М. Клімковіча, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка, опер «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага, «Кветка шчасця» А. Туранкова.

У гады Вялікай Айчыннай вайны тэатральна-дэкарацыйнае, як і іншыя віды мастацтва, служыла барацьбе супраць фашызму, натхняла савецкіх людзей на барацьбу.

У пасляваенны перыяд побач з паспяховым развіццём дэкарацыйнага мастацтва ў тэатрах рэспублікі пачынаюць творчую дзейнасць мастакі кіно, а пазней і тэлебачання.

Найбольш значныя творы беларускіх дэкаратараў — гэта «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (мастак І. Ушакоў), «Крэпасць над Бугам» С. Смірнова (мастак Я. Нікалаеў), «Маладая гвардыя» Ю. Мейтуса (мастак П. Масленікаў), «Дзяўчына з Палесся» Я. Цікоцкага (мастак С. Нікалаеў), «Кароль Лір» У. Шэкспіра (мастак А. Грыгар'янц), «Святло і цені» Г. Вагнера і іншыя.

Умелае асэнсаванне багатага вопыту савецкага кінамастацтва, імкненне да шырокага выкарыстання сучасных дасягненняў сумежных відаў мастацтва значна ўзбагацілі творчыя магчымасці мастакоў кіно. У стужках «Першыя выпрабаванні» (мастакі У. Белавусаў і Ю. Булычаў), «Трэцяя ракета» (мастакі У. Дзяменцьеў і Я. Ігнацьеў), «Пісьмы да жывых» (мастак Ю. Альбіцкі), «Альпійская балада» (мастак В. Кубараў), «Я родам з дзяцінства» (мастак Е. Ганкін) яны стварылі па-сапраўднаму рэалістычнае асяроддзе, якое дазволіла найбольш поўна і яскрава, з максімальнай псіхалагічнай глыбінёй раскрыць характар падзей.

У 70—80-я гады найбольш плённа працуюць мастакі Б. Герлаван, Ю. Тур, А. Салаўёў, Я. Ждан, М. Якунін, М. Волахаў, У. Гардзеенка, Д. Мохаў, Я. Ігнацьеў, В. Кубараў, У. Дзяменцьеў, Е. Ганкін, А. Фаміна, А. Чартовіч, У. Чарнышоў, Л. Гадлеўскі, Е. Шкаева, А. Грыбава, В. Грыдзіна.

Чытачы альбома «Мастацтва беларускіх дэкаратараў» пазнаёмяцца з творчасцю мастакоў лялечных тэатраў, мультфільмаў, а таксама тэлебачання. Апрача эскізаў дэкарацый, у альбоме змешчаны эскізы касцюмаў да спектакляў і кінафільмаў.

**Пётр КАРНАЧ, кандыдат мастацтвазнаўства.**



**НА ЗДЫМКУ: эскіз дэкарацыі да оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны». 1957 год.**

*ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### АБ'ЯДНАЛА ПАЭЗІЯ

*У гасцях у працаўнікоў горада над Бугам пабываў Рыгор Барадулін. У Палацы культуры Брэсцкага аблсаўпрофа, дзе сабраліся аматары беларускай літаратуры, адбылася зацікаўленая размова аб паэзіі, шляхах яе развіцця, уздзеянні на ўнутраны свет чалавека. Р. Барадулін расказаў аб сваіх паездках у іншыя краіны, удзеле ў рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, падзяліўся планамі, прачытаў свае творы, урывак са «Слова аб палку Ігаравым» у сваім перакладзе.*

*Уладзімір Калеснік, які вёў вечар, ад імя чытачоў пажадаў паэту далейшага плёну.*

### СПРАВАЗДАЧА МАЛАДЫХ

*Своеасаблівай творчай справаздачай маладых паэтаў стала чарговая «Прэм'ера новай кнігі», якая адбылася ў Доме літаратара. Яна была прымеркавана да выхаду чарговых зборнікаў «Ліст рабіны» Уладзіміра Марука і «Чытаю зоры» Алеся Пісьмянкова.*

*З чытаннем твораў выступілі віноўнікі ўрачыстасці.*

### СУСТРЭЧА Ў ВІЛЬНЮСЕ

*У Вільнюсе адбылася сустрэча студэнтаў і выкладчыкаў Літоўскай і Беларускай дзяржаўных кансерваторый. Прысутнічалі беларускі кампазітар А. Багатыроў, літоўскія — В. Пакетурас, Р. Жыгайціс, Б. Кутавічус. Былі выкананы творы У. Бабкова, Н. Якімавай, У. Карызны, Р. Глебава, М. Калешкі, М. Стомы і іншых. Кампазітары — выкладчыкі Віленскай кансерваторыі адзначылі шматграннасць і народны каларыт у творах маладых беларускіх аўтараў.*

### ПАМЯЦІ КАЛІНОЎСКАГА

*Актавую залу Магілёўскага педагагічнага інстытута імя Аркадзя Куляшова запоўнілі не толькі студэнты і выкладчыкі, але і многія жыхары горада. Тут адбыўся літаратурна-мастацкі вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага.*

*Даклад пра жыццё, творчасць і барацьбу К. Каліноўскага зрабіў старшы выкладчык кафедры гісторыі СССР педінстытута Я. Трашчонак. Самадзейныя артысты далі канцэрт.*



**Прэм'ерай «Гамлета» У. Шэкспіра закрывае сёлетні тэатральны сезон трупа тэатра-студыі кінаакцёра пры кінастудыі «Беларусьфільм». Сваё бачанне трагедыі стараліся данесці да гледача пастаноўшчык спектакля заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Барыс Луцэнка, мастак - пастаноўшчык Дзмітрый Мохаў, кампазітар Аркадзь Гураў.**
**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота У. ШУБЫ.**

**РУСКІ КРЫТЫК АЛЯКСЕЙ КАНДРАТОВІЧ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ**

# З ЛЮБОЎЮ І ПАТРАБАВАЛЬНАСЦЮ

Імя Аляксея Кандратовіча шырокаму чытачу вядома перш за ўсё па кнігах пра Аляксандра Твардоўскага — «Твардоўскі. Паэзія і асоба» і «Равеснік любому пакаленню», якія вытрымалі па два выданні. Аднак А. Кандратовіч, пачынаючы з 1940 года, плённа выступаў і ў галіне літаратурнай крытыкі, пакінуўшы пасля сябе больш як 200 рэцэнзій і артыкулаў. Лепшыя з іх увайшлі ў пасмяротную кнігу пісьменніка, выпушчаную маскоўскім выдавецтвам «Советский писатель».

З яе відаць, што А. Кандратовіч падтрымліваў даўнія кантакты і з беларускімі пісьменнікамі, маючы сярод іх нямала добрых сяброў. Цікавасць яго да нашай прозы і паэзіі, драматургіі і крытыкі асабліва ўзрасла падчас працы разам з А. Твардоўскім у часопісе «Новый мир» у 1952—1955 і ў 1958—1970 гадах.

Беларускі матэрыял займае значнае месца і ў кнізе «Прызванне». Нельга не адзначыць артыкул «Чалавек на вайне», напісаны ў 1961 і дапоўнены ў 1964 годзе. Разглядаючы ваенную прозу 60-х гадоў, А. Кандратовіч не абмінае і аповесць В. Быкава «Трэцяя ракета». Як вядома, гэта былі гады, неспрыяльныя для пісьменніка, крытыканы адмоўна ставіліся да яго твораў. А. Кандратовіч адным з першых заўважыў, што «аповесць... таленавітая. У ёй мы бачым рэальнага чалавека на рэальнай вайне. Савецкага чалавека. Не на вайне, створанай уяўленнямі і літаратурнай модай, а на той вайне, якая была,— на вялікай, айчыннай, што пераарала нашу зямлю, але загартавала нашы душы».

Разважаючы аб значнасці ваеннай прозы, А. Кандратовіч зазначае: «Не, не трэба прыхарошваць вайну. Відаць, нідзе гэтае прыхарошванне так не рэжа вочы, як у творах на ваенную тэму. Але гэтак жа памылкова было б упадаць у паніку і палохаць вайной, адмаўляючы мэтазгоднасць любой вайны». Далей ён вядзе гаворку аб раманах А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой», прасочваючы, як пісьменнік «не ўтойвае трагедыйнасці ўзаемаадносін з вайной».

У кнізе змешчаны адказы на анкету Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР і Саюза пісьменнікаў рэспублікі (датуюцца красавіком 1984 года). У анкеце было і такое пытанне: «Назавіце, калі ласка, пяць (можна больш) лепшых савецкіх твораў аб вайне». А. Кандратовіч гаворыць: «Калі абмежавацца лічбай «5» (у адносінах да аўтараў), дык я абавязкова назваў бы В. Быкава і А. Адамовіча. У першага мне бліжэй за ўсё аповесці «Мёртвым не баліць», «Атака з ходу», «Сотнікаў». У другога, канечне, «Блакадная кніга». Гэта літаратура і адначасова гістарычны дакумент такой магутнасці, што пасля прачытання яго, памойму, у любой нармальнай душы нешта павернецца, калі не перавернецца ў яго адносінах да вайны і міру. Вось кніга, якую няблага выдаць ва ўсіх краінах Захаду, ды і іншых, каб усе ведалі, што перажыў аднойчы горад на зямлі. З-за вайны. З-за фашызму».

«І гэтай веры хопіць мне надоўга...»— так назваў А. Кандратовіч штрыхі да творчага партрэта Н. Гілевіча. Даючы высокую ацэнку творчасці пісьменніка, яго грамадскай і навуковай дзейнасці, аўтар падкрэслівае: «Паэзія Н. Гілевіча — чыстая, шматзначная, якая гаворыць з намі, як быццам сама з сабой,— і ў гэтым яе прывабнасць».

Рэцэнзія на раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» ўпершыню была апублікавана ў дзевятым нумары часопіса «Октябрь» за 1976 год. «Спасціжэнне чалавечнасці»— так ацэньвае А. Кандратовіч тое, што ўдалося ўвасобіць пісьменніку ў яго першым творы аб жыцці верамейкаўцаў у пачатку вайны. Крытык адзначае, што ў «Плачы перапёлкі» І. Чыгрынаў «верны лепшым традыцыям беларускай прозы — суровай, стрыманай прастаце стылю, якая заўсёды аддае перавагу дакладнасці і праўдзівасці кожнай дэталі». «Гэта раман, — сведчыць А. Кандратовіч, — змест якога зусім не ўкладваецца ў рамкі ўяўленняў аб ваенным рамане, якія ўжо скла́ліся... І пры ўсім тым гэта, канечне, самы сапраўдны ваенны раман аб вайне, якая ў розныя свае перыяды і асабліва ў пачатковы стварала сітуацыі незвычайныя, выключныя». «Адметнасць рамана Івана Чыгрынава,— працягвае аўтар, — перш за ўсё ў яго матэрыяле... Думаю, што яшчэ ніхто ў нашай літаратуры з такой пільнасцю не разглядаў гэтыя два першыя месяцы вайны ды яшчэ ў асаблівай, не франтавой, а паўакупацыйнай абстаноўцы».

На жаль, з-за абмежаванасці памеру кнігі, хоць аб'ём яе больш за 30 аркушаў, чытач не мае магчымасці пазнаёміцца з іншымі рэцэнзіямі і артыкуламі А. Кандратовіча, прысвечанымі беларускай літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*РОДНАЕ — БЛІЗКАЕ*

# НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ УСЫ ХУТКАПЛЫННАЙ

Сцяжынка са светлага бярозавага гаю бяжыць уніз. Стромкія елкі абступаюць яе, і ад іх калючых лапак сцяжынка, здаецца, звужаецца, уціскаецца ў пагорак. А потым раптам вырываецца на волю на шырокі выган. Восеньскае сонца асляпляе, пасля прыцемкаў ялоўніка самі сабой жмурацца вочы. Таму ў першы момант нічога, акрамя гэтага яркага ззяння, не ўспрымаецца. Прыгажосць поймы Усы вырысоўваецца ў маёй свядомасці павольна, як абрысы будучага фотаздымка ў праявіцелі. І чым выразней, тым большай, нейкай узнёслай радасцю напаўняецца сэрца. Нават не верыцца, што сёння я зрабіў першы ў маім жыцці крок па такой таямнічай і такой славутай на ўсёй сінявокай Беларусі Налібоцкай пушчы. Перад вачыма з усходу на захад па неширокай даліне струменіць празрыстая вадзіца рэчкі Усы.

Іду берагам. Алешыны высока ўзнеслі свае кроны. Босыя ногі іх палошча, пяшчотна кранае прыемна-халаднаватая асенняя вада. А вунь тое дрэва падгніло ад старасці, і вецер кінуў яго ўпоперак рэчкі. Так і выцягнулася алешына на процілеглы бераг зручнай кладкаю.

Прысаджваюся на камель. Усімі клетачкамі цела ўбіраю і ніяк не магу наталіцца прыгажосцю навакольных пейзажаў. Так, цудоўныя тут мясціны. Але думкі мае сёння раз-пораз вяртаюцца ў той бярозавы гай, што ззяе цяпер золатам у трох сотнях крокаў ад Усы, ад жаўтлявага доміка, да паросшых травою і маладым асіннікам падмурка ў фальварка. Складзены з пачарнелых камянёў, нагадвае аб тым, што некалі тут было чалавечае жыллё.

Дзяржынава... Невялічкі хутар на беразе Усы, край Налібоцкай пушчы. Лёсам было наканавана, што менавіта тут 11 верасня 1877 года нарадзіўся выдатны наш суайчыннік, рэвалюцыянер, славуты дзеяч маладой Савецкай дзяржавы Фелікс Дзяржынскі.

...Вада на крутым зломе рэчкі завіваецца кружкамі, імкліва нясе з сабой травінкі, пажоўклыя пакручаныя лісткі алешын. Дрыжыць у абдымках хуткай плыні вастралісты аер. І мне здаецца, што Уса была такой самаю і цэлае стагоддзе назад, калі на яе бераг любіў прыбягаць маленькі Фелікс. У дзіцячых гульнях, паходах у лес, на рэчку гартаваў сябе будучы рэвалюцыянер. Маці яго, Алена Ігнатаўна,— высокаадукаваны чалавек і ўмелы выхавальнік — заахвочвала захапленне сваіх дзяцей прыродай, бо разумела: толькі ў дотыку да прыгажосці можа скласціся сапраўдны характар. Юныя браты Дзяржынскія спаўна выкарыстоўвалі такія магчымасці. Колькі ўражанняў засталася ў братоў пасля працяглых паходаў на лодках па звілістай Усе аж да сівога бацькі Нёмана. Аб гэтым, дарэчы, не раз успамінаў Фелікс Эдмундавіч далёка-далёка ад роднай Беларусі: і ў Германіі, і ў Сібіры, і ў цэнтры Расіі, і ў іншых мясцінах, куды заносіў яго лёс. Невыпадкова ў адным з лістоў ён піша: «З якой асалодай я абняў бы нашы лясы і лугі, дом, сосны ў двары і ў садзе і ўсе наш[illegible] родныя мясціны...»

Ступаю на кладку. Хісткая, але надзейная апора. Перабіраюся на той бераг. Караскаюся на пагорак, да ялоўніку. Тут паўзмрок і ві[illegible]готна. У рэдкіх прагалах у[illegible] мільгае блакітная плынь Усы, бачу ўзлёт сцяжынкі да сядзібы Дзяржынскіх. Адсюль дзесяцігадовы Фелікс ідзе, як кажуць, у свет: паступае вучыцца ў 1-ю Віленскую гімназію. Тады ён яшчэ не ведаў, што да светлай Усы, да мілых сэрцу налібоцкіх хвой, бяроз ды елак шлях яго з гадамі будзе станавіцца ўсё даўжэйшым і даўжэйшым. Напачатку толькі ў час канікулаў, а пасля...

Прахалода ялоўніку выклікае ў маіх думках новыя малюнкі. Першы арышт Дзяржынскага ў Коўна (цяпер Каўнас).

Небяспечнай была дзейнасць рэвалюцыянера, якую Фелікс выбраў для сябе з маладых гадоў. Праз вільготныя і халодныя казематы, камеры і карцэры давялося прайсці Дзяржынскаму. Адзінаццаць гадоў праведзена ў зняволенні... Гэта магло зламаць любога, самага стойкага чалавека. Але толькі не «жалезнага» Фелікса. Нідзе і нікому ён не скараўся. Пры першай магчымасці ўцякаў з турмы або ссылкі, зноў уліваўся ў рады змагароў з самаўладдзем. І так аж да лютаўскай буржуазнай рэвалюцыі 1917 года.

Віруе жыццё рэчкі. Струмені вады агінаюць карані і купіны, водарасці і пянькі, закручваюцца, мігцяць ценямі на светлым пясчаным дне. Бачу, як на люстраной паверхні плёса мітусяцца вадамеркі, дробныя мошкі, у патоках, плыні — маляўкі плотак, лешчыкаў, пячкуроў. З-пад карча на перамел ценем выслізнуў вялікі шчупак і, заўважыўшы мой рух, знік у цёмнай глыбіні віру пад тым берагам. Вясёлай талакой мільганулі над водарасцямі серабрыстыя краснапёркі. Назіраю і адчуваю, як з душы злятаюць нязначныя клопаты, як расслабляецца перапоўненае ўражаннямі сэрца, святлеюць думкі.

І зноў уяўляецца Дзяржынскі. Цяжкім быў апошні прыезд яго ў родны фальварак. Давялося хаваць брата Станіслава, што загінуў ад рук бандытаў летам 1917 года. Велізарная страта. Але трэба выстаяць і зноў працягваць барацьбу.

...Схіл пагорка збягае да рэчкі і крута падае да яе светлым пяском абрыва. Выйшаў сюды на развітанне. Уса, вільнуўшы ля маіх ног, адбягае далей і кружыць, кружыць па даліне, нясе сваю ваду на Захад, да свайго суджанага — Нёмана. Сонечныя зайчыкі адбіваюцца ад хваль мне ў вочы, бы падміргваюць на развітанне. Махае сваімі доўгімі вострымі лістамі чарот. А мне так і хочацца сказаць: «Да пабачэння, Уса, да пабачэння, Дзяржынава. Дзякуй за добрыя гадзіны сустрэчы з часцінкай біяграфіі славутага рэвалюцыянера Фелікса Дзяржынскага. Дзякуй за дачыненне да слаўнай гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы майго народа».

Васіль ЖУШМА.



**«Спадчына» — так называецца творчае аб'яднанне пры Мотальскай сярэдняй школе № 1 Іванаўскага раёна. Вучні, якія ўваходзяць у яго, вывучаюць гісторыю роднай вёскі, біяграфіі аднавяскоўцаў, запісваюць песні, сказы, легенды, што бытуюць у акрузе, а потым самі іх выконваюць.**

**У літаратурнай гасцінай клуба калгаса «40 год Кастрычніка» яны арганізуюць сустрэчы са старажыламі, ветэранамі вайны і працы, самадзейнымі артыстамі. Частымі гасцямі бываюць тут і беларускія літаратары, якія знаёмяць членаў аб'яднання са сваімі творамі.**

**НА ЗДЫМКУ: перад мотальскімі школьнікамі выступае беларускі пісьменнік Віктар КАРАМАЗАЎ.**

**Фота Э. КАБЯКА.**




Вялікую цікавасць у аматараў спорту выклікаў чэмпіянат Еўропы па футболу, які праходзіць у ФР[illegible] Ужо першыя гульні пры[illegible]лі сенсацыю. У паўфінал не змагла прабіцца вельмі моцная каманда Англіі. Яна прайграла ірлан[illegible]м — 0:1 і зборнай Галандыі — 1:3.

[illegible] тычыцца футбаліст[illegible] зборнай СССР, за якую выступаюць і мінскія дынамаўцы Сяргей Алейнікаў і Сяргей Гоцманаў, то яны стартавалі нядрэнна. Атрымалі перамогу над галандцамі — 1:0, пасля зрабілі нічыю з ірландцамі — 1:1. А ў заключным матчы з англічанамі выйгралі з лікам 3:1 і выйшлі ў паўфінал.

Яшчэ аб футболе. Паспяхова выступілі мінскія дынамаўцы на папярэднім этапе розыгрышу Кубка федэрацыі футбола СССР. Перамога ў апошнім матчы над ленінградскім «Зенітам» з лікам 3:1 дазволіла нашай камандзе выйсці ў чвэрцьфінал. А да гэтага дынамаўцы добра стартавалі ў розыгрышы Кубка СССР. Яны перамаглі «Дружбу» з Майкопа — 3:0.

Нядаўна ў Францыі завяршыўся буйны міжнародны турнір па футболу сярод маладзёжных каманд. Абслугоўваць яго быў запрошаны суддзя з Мінска Вадзім Жук. Са сваімі абавязкамі ён справіўся выдатна. Аб гэтым сведчыць той факт, што прадстаўніку Беларусі было даручана судзіць фінальную сустрэчу паміж зборнымі Францыі і Англіі. А пасля, на ўрачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў турніру, Вадзіму Жуку ўручылі сярэбраны Кубак — прыз лепшаму арбітру турніру.

Прыемныя весткі працягваюць паступаць з многіх краін свету аб выступленні беларускіх спартсменаў. Так, Генадзь Валюкевіч у Йене (ГДР) на міжнародных спаборніцтвах лёгкаатлетаў паказаў вынік 17 метраў 44 сантыметры ў трайным скачку.

На апошняй рэпетыцыі тэнісістак перад Уімблдонскім турнірам зноў парадавала Наталля Зверава. Беларуская спартсменка на спаборніцтвах у Англіі перамагла Тэры Фелпс (ЗША) і Клаўдзію Порвік (ФРГ) і працягвае барацьбу за галоўныя ўзнагароды.

## ЭТНАГРАФІЧНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

**Летась рэспубліканскім Музеем народнай архітэктуры і быту была праведзена этнаграфічная экспедыцыя па паўночнай Магілёўшчыне, у прыватнасці, у Шклоўскі і Бялыніцкі раёны. У выніку яе калекцыя музея ўзбагацілася новымі экспанатамі. Гэта ручнікі, абрусы, старадаўнія дзяругі і нават знікшыя з ужывання «трапкачы». Складаней была справа з традыцыйным касцюмам, як з жаночым, так і з мужчынскім. Да нашага часу захаваліся льняныя клятчастыя спадніцы — «шэрпінкі», таму што іх насілі пажылыя жанчыны не так ужо і даўно — у пасляваенныя 50-я гады. Можна сустрэць, хаця і радзей, шарсцяныя андаракі, паясы. Вельмі рэдка сталі сустракацца белыя спадніцы, аздобленыя ўнізе ўзорным тканнём, практычна зніклі традыцыйныя па крою, матэрыялу і арнаментацыі сарочкі, фартухі. І ўсё-такі, куды б ні прыязджала экспедыцыя, яе ўдзельнікі сустракалі разуменне, добразычлівыя адносіны і, вядома, падтрымку з боку мясцовых жыхароў, работнікаў культуры. Дапамагалі і парадай, і практычнымі справамі тыя людзі, хто захаваў цудоўныя рукатворныя вырабы сваіх бацькоў, хто блізка да сэрца ўспрыняў высакародную задачу захавання культурнай спадчыны.**



**Ф. ФАДЗЕЕВА.**

## ЧАСТУЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУХНЯ

Хочаце пабываць за сталом у жыхара Разані? У літоўца, грузіна ці ўкраінца? «Калі ласка!»— запрашае мазырскі рэстаран «Палессе», які прапаноўвае сваім наведвальнікам дні нацыянальнай кухні.

Пачатак «дням» паклала беларуская кухня, дзе быў вялікі выбар разнастайных, смачных страў. Наведвальнікі ацанілі майстэрства мясцовых кулінараў. Цяпер на чарзе пачастункі нацыянальнай кухні Прыбалтыкі і Закаўказзя, Украіны, Расіі, іншых рэспублік.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 985